

# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

**Сусьветнае сеціва:** ***www.baza-belarus.org, e-krama.com***
**Электронны адрас:** ***viestki@mail.com***
✉: ***VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 9 (559)**
**Верасень 2012 г.**


# Дзень Беларускай Вайсковай Славы

Сёлета 8 верасьня спаўняецца 498 год слаўнай Аршанскай бітве паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы, што спрадвеку імкнулася захапіць беларускія землі. У 16-м стагодзьдзі маскоўскія князі вялі няспынныя вайсковыя канфлікты з старабеларускай дзяржавай – Вялікім Княствам, імкнучыся захапіць Смаленшчыну і прылеглыя абшары. Менавіта ў час такога канфлікту, вайны 1512-1522 гг., і адбылася бітва, у якой найбольш яскрава выявіліся патрыятызм, воля да перамогі, мужнасьць і вайсковае майстэрства нашых продкаў. Аршанская бітва паказала здольнасьць ваяроў Вялікага Княства бліскуча выкарыстоўваць вайсковую тактыку і веданьне мясцовасьці, каб перамагчы 80-тысячнае маскоўскае войска, што больш чым у 2 разы пераважала аб’яднаныя сілы, 35 000 ваяроў, што здолеў сабраць Вялікі князь і кароль Жыгімонт. Палкамі войска ВКЛ камандаваў князь Канстанцін Астроскі, сярод ягоных ваяводаў былі здольныя вайсковыя кіраўнікі Юры Радзівіл і Ян Сапега.

Як вядома зь летапісаў і кронік, частка войска ВКЛ пераправілася праз Дняпро і наблізілася да лягеру маскоўцаў на рацэ Крапіўне. Расейскія ваяводы, бачачы сваю лічэбную перавагу, кінулі ў наступ усе свае палкі, імкнучыся ў лоб перамагчы й зьнішчыць сілы Вялікага Княства. Але палкі Астроскага вытрымалі магутны ўдар маскавітаў, на якіх затым з флянгаў ударылі рэзэрвы старабеларускага войска поруч з аліянтамі – коньнікамі Малапольшчы й Вялікапольшчы. Ударылі схаваныя ў лесе гарматы. Маскавітаў гналі й секлі некалькі міляў. На Крапіўне воды былі запруджаныя целамі забітых і чырванелі ад крыві. Перамога пад Воршай была поўнай. Дзясяткі тысяч маскавітаў былі забітыя, і тысячы, улучна зь 9 ваяводамі, трапілі ў палон. Маскоўскі князь Васіль III быў разьюшаны і абяцаў пакараць тых, хто выратаваўся ў бітве – што, дарэчы, нагадвае стаўленьне Сталіна да савецкіх палонных падчас Другой сусьветнай вайны. Сын Васіля, дарэчы, будучы цар Іван IV Жахлівы, быў добры бацькаў вучань, і далёка пераплюнуў таго, нішчачы як сваіх суайчыньнікаў, так і беларусаў.



*Фрагмэнт карціны невядомага мастака “Бітва пад Воршай”.*

Між тым весткі пра перамогу пад Воршай пайшлі шырака па сьвеце, пра яе даведалася Польшча, Заходняя Эўропа. Перамога гэтая прыпыніла імпэт і апэтыты маскоўскіх заваёўнікаў. Па колькасьці ўдзельнікаў Бітва пад Воршай была адной з найвялікшых у тагачаснай Эўропе і трапіла ў кронікі іншых народаў, а таксама ў расейскія летапісныя зборнікі. А вось у самой Беларусі памяць пра яе чакаў зусім іншы лёс. Гэтую памяць усяляк спрабавалі і спрабуюць зьнішчыць. Як спрабаваў зьнішчыць нашых ваяроў пад Воршай маскоўскі ваявода Чаляднін, які налажыў галавой на Крапівенскім полі. У адрозьненьні ад Чаляднiна, зьнішчальнікамі памяці былі й ёсьць нібыта свае – “тожебелоруссы”. Мусім спадзявацца, што і яны галавой наложаць.

Зьвесткі пра Бітву пад Воршай, акрамя летапісаў і кронік, адлюстраваныя таксама ў тагачаснай мэмуарнай літаратуры, у фальклёры і нават у карціне, што захоўваецца ў Нацыянальнай галерэі Польшчы. Менавіта бел-чырвона-белыя прапарцы сьв. Юрага на дзідах коньнікаў старабеларускай дзяржавы, што намаляваныя на карціне, натхнілі беларускага дзеяча Кляўдыюша Дуж-Душэўскага на стварэньне праекту сьцягу Беларусі, што быў зацьверджаны Першым Усебеларускім Кангрэсам сьцягам БНР і адпаведна беларускім нацыянальным сьцягам.

Традыцыя адзначэньня Дня Беларускай Вайсковай Славы адносна новая, бо толькі з дасягненьнем незалежнасьці адкрылася магчымасьць спасьцігаць сваю схаваную дагэтуль гісторыю. Хоць Бітва пад Воршай была пададзеная ў творах па гісторыі У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага і М. Доўнар-Запольскага, вывучалася як прыклад вайсковага майстэрства ў дарэвалюцыйных расейскіх вайсковых вучэльнях, але ў сталінскія і пасьлясталінскія часы, як і цяпер – у часы нэасталінізму – тэма перамогі пад Воршай, як і наагул шматвекавое змаганьне беларусаў супраць расейскай навалы, – зьяўляецца табу, замоўчваецца, аб’яўляецца “прыдумкамі буржуазных нацыяналістаў”, “убіцьцём кліну паміж братнімі народамі”. І не да зразуменьня тым прыхільнікам “братэрства”, што ад так званай братняй рукі ў часы Лівонскай вайны Івана Жахлівага загінулі сотні тысяч, а ў 17-м і 18-м стагодзьдзях, у часы крывавага гайсаньня па Беларусі Аляксея Міхайлавіча (Маскоўская вайна 1654-1667 гг.) і Пятра І Аляксеевіча (Паўночная вайна 1700-1721 гг.) – мільёны беларусаў.

Нялёгка давалася сьвяткаваньне Дня Беларускай Вайсковай Славы нават у адносна лібэральныя першыя гады незалежнасьці, калі то кебічаўскія, а потым лукашэнкаўскія паслугачы

***Заканчэньне на бачыне 3***

# Жнівеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

Чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбыўся 11 жніўня. Гэтым разам ён прайшоў не ў стаўшай ужо звыклай сядзібе Дому Маракоў на Мангэтане, а па сэзону – на прыродзе ў парку. Нажаль, гэты досьвед можна палічыць пробным і скарыстаць для паляпшэньня падрыхтоўкі наступных такіх сходаў. Дзеля аддаленасьці Фляшынг-Мэдаўз-Карона парку, на сходзе было значна менш людзей, чым на папярэдніх сходах. Але тыя хто такі дабраліся да парку, не пашкадавалі – надвор’е было добрым, мясьціна – прыгожай, і час за сяброўскай гамонкай ішоў досыць хутка.

Ідэяй сустрэчы на прыродзе было даць сябрам арганізацыі магчымасьць сабрацца ў вольнай, таварыскай атмасфэры, пазбаўленай афіцыёзу і стандартнага фармату звычайных сходаў, на якім старшыня або вядучы сходу і аўдыторыя міжволі падзеленыя на два бакі й нагадваюць часам паседжаньні савецкіх часоў, калі “начальства” сядзела ў прэзыдыюме, а “звычайныя людзі” пазяхалі ў залі. Сустрэча ў парку была пакліканая менавіта ініцыяваць шчыры, раўнапраўны, зацікаўлены абмен думкамі, ідэямі, заўвагамі, прапановамі.

Пры сяброўскім пачастунку адбылася нязмушаная гутарка пра надзённыя пытаньні, што хвалююць большасьць сябраў арганізацыі, асабліва моладзь. Першым сярод такіх пытаньняў ёсьць набыцьцё або зьмена афіцыйнага асабістага статусу ў ЗША. Абмяркоўвалася праца адвакатаў і юрыстаў, што займаюцца беларускімі справамі, іх вынікі, стыль працы і г. д. Адзначалася “няроўнасьць” паасобных адвакатаў і юрыстаў-паралігалаў і неабходнасьць маніторынгу ў нейкі спосаб іхнай працы ды яе вынікаў. Але гэта ў вырашальнай меры залежыць, канешне ж, ад зьвязаных зь імі сябраў арганізацыі і, адпаведна, ад іхнага жаданьня прадстаўляць датычную справы інфармацыю, з тым каб яе, у хаця б самым агульным выглядзе, можна было б зьмяшчаць на сайце “Пагоні” ў разьдзеле “Юрыдычная дапамога”, каб ёй маглі карыстацца наступныя зацікаўленыя беларускія людзі, што апынуліся ў падобным стане.

Акрамя вышэйзгаданага, прайшлі абмеркаваньні іншых кірункаў працы арганізацыі, была выказаная патрэба стварэньня ўмоваў шырэйшага стымуляваньня знаёмстваў і калегаваньня паміж сябрамі арганізацыі, дзеля чаго дадзеная сустрэча-сход была залічаная як крок у патрэбным напрамку. Было рэкамэндавана правесьці наступны верасьнёўскі сход таксама на прыродзе ў парку, але гэтым разам у больш даступным і зручным для ўсіх сяброў Згуртаваньня месцы, напрыклад, у Цэнтральным парку на Мангэтане.

***Віталь ЗАЙКА***

# Янка Юхнавец. “Паэзія”

***Юхнавец, Янка****. Паэзія / Укладанне, прадмова і каментар Л. Юрэвіча. Мінск: “Лімарыус”, 2012. – 620 с.: іл. – (Галасы Айчыны).*




Янку Юхнаўца (1921—2004) называлі і называюць геніем і вар’ятам, да ягонай арыгінальнай літаратурнай творчасьці ставяцца неадназначна як у эміграцыйных колах, гэтак і ў мэтраполіі. Ён самабытны, часта незразумелы, хутчэй заходні, чым усходні, нягледзячы на паходжаньне зь Бягомльшчыны… А да таго ж, Юхнавец, на жаль… малавядомы. Выдадзены ім самім на эміграцыі збор твораў меў мізэрны наклад, зборнікі таксама ня так шырока разыходзіліся, сьціплае мэтрапольнае выданьне “Сны на чужыне” пачатку 1990-х было хутчэй водгаласкам паэтавай творчасьці…

І вось сёньня мы нарэшце маем першы поўны збор паэтычнай спадчыны Янкі Юхнаўца, выдадзены ў Менску ў сэрыі “Галасы Айчыны” выдавецтвам “Лімарыус”. Пад адной вокладкай тут сабраныя творы (вершы, паэмы, паэтычныя начыркі, пераклады), што друкаваліся раней у паэтавых зборніках, а таксама асобнымі часапіснымі публікацыямі. Яны так і разьмеркаваныя ў томе – паводле храналёгіі Юхнаўцовых выданьняў, што дазваляе прасачыць пэўныя этапы паэтычнай творчасьці.

Янка Юхнавец, чыю сям’ю ў часе Другой сусьветнай вайны зьнішчылі нямецкія карнікі, быў вывезены на працы ў Нямеччыну, адкуль у паваенны час перабраўся ў ЗША. Менавіта ў паваеннай Нямеччыне ён пачаў пісаць. Першы ж зборнік “Шорах моўкнасьці” пабачыў сьвет ужо ў Амэрыцы ў 1955 г. Пазьней былі “Калюмбы” (1967), трохтамовы “Збор твораў” (1987—1990), “Дань майго часу” (1993)… Янка Юхнавец шмат пісаў паэзіі і прозы і, як кажуць, не праводзіў паміж імі асаблівай розьніцы. Ягоная надзвычай цікавая проза яшчэ чакае на асобнае выданьне, як і ўся творчасьць пісьменьніка чакае на асэнсаваньне літаратуразнаўцамі і чытачамі.

Дадаткам да твораў у зборы ёсьць невялікая ўклейка са здымкамі аўтара розных часоў.

У прадмове “У чаканьні Юхнаўца”, укладальнік тому Лявон Юрэвіч зьмяшчае кароткую аўтабіяграфічную зацемку паэты, якая хутчэй нагадвае рэфлексіі аўтара над сваім жыцьцём і заканчваецца сказам *“…Я ня ведаю, чым я стаўся ў беларускай літаратуры й чым станіся ў будучым”*. Нядаўна выдадзеная “Паэзія” Янкі Юхнаўца можа дапамагчы гэта высьвятліць.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

## Шаноўнае спадарства!




**Прэзэнтацыя** сёлетняга нумару літаратурнага альманаху **“Беларус”** адбудзецца падчас кастрычніцкага сходу Згуртаваньня “Пагоня”, што пройдзе вечарам у суботу **20 кастрычніка 2012 г.**

Удзельнікі прэзэнтацыі змогуць сустрэцца і пагутарыць з аўтарамі і выдаўцамі альманаху, а таксама набыць выданьне па зьніжанаму кошту.

Запрашаем прыходзіць усіх зацікаўленых.

# Ці ёсьць надзея на перамены?

Няспынныя рэпрэсіі,ператрусы ды новае неканстатытуцыйнае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, здаецца, зрабілі спробы масавага пратэсту ў Беларусі немагчымымі. Флэшмоб украінскага руху Фэмэн насупраць будынка КДБ у Менску ды плюшавыя мядзьведзікі, скінутыя швэдзкімі актывістамі з самалёта на тэрыторыю Беларусі, сталі адзінымі значнымі акцыямі ў апошні час. Тое, што замежныя актывісты апынуліся ў цэнтры увагі СМІ, добра ілюструе стан, у якім апынулася беларуская апазыцыя: бязьдзейнасьць ды страх, краты ці эміграцыя.

У такіх умовах паўстае пытаньне, ці ёсьць надзея на перамены. “Хто, калі ня ён?”, – часта можна пачуць ад прыхільнікаў А. Лукашэнкі, калі яны кажуць пра адсутнасьць прыстойнай асобы, здольнай заняць ягоную пасаду. Нядзіўна, што новым тварам цяжка зьявіцца на беларускім палітычным небасхіле, калі ў выніку прэзыдэнцкіх кампаніяў кандыдаты, якія рызыкуюць кінуць выклік Лукашэнку, апынаюцца за кратамі, вымушаныя шукаць прытулку замяжой ці дыскрэдытаваныя так, што працягваць палітычную дзейнасьць ужо немагчыма.

Ва ўмовах, калі старая апазыцыя вымушана бязьдзейнічае, павышаецца роля так званага трэйцяга сэктару, які, па словах старшыні Асамблеі НДА Беларусі Сяргея Мацкевіча, “знаходзіцца ў цяжкім становішчы, але працягвае працаваць”. Нягледзячы на зьніжэньне колькасьці няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў і грамадзкіх актывістаў з часу драматычных падзеяў апошніх прэзыдэнцкіх выбараў і наступных пасьля іх шматлікіх арыштаў іператрусаў, НДА тым ня менш працягваюць працу. Разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці, распаўсюджваньне інфармацыі аб перавагах дэмакратыі, свабоднай рынкавай эканомікі, падзел ўладаў, важнасьці сумленных і празрыстых выбараў – ёсьць асноўнымі прыярытэтамі іхняй працы. Дзейнасьць НДА і грамадзкіх актывістаў у Беларусі – небясьпечная справа. Значная частка няўрадавых арганізацыяў і актывістаў цярпелі ператрусы і допыты пасьля 19 сьнежня 2010 г., імпрэзы, ладжаныя НДА, забараняюцца ў апошні момант на абсурдных падставах. Больш за тое, праваабаронца Алесь Беляцкі апынуўся за кратамі за сваю праваабарончую дзейнасьць.

З НДА, якія найбольш актыўна займаюцца пытаньнямі разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці Беларусі ды выхаваньнем новых лідэраў, ня проста “бунтаўшчыкоў без прычыны”, а экспэртаў у сваёй галіне, разумеючых значэньне цывілізаваных дэбатаў і здольных пачуць іншы пункт гледжаньня, можна вылучыць Лібэральны клюб, што базуецца ў Менску. Некамэрцыйная няўрадавая арганізацыя, створаная ў 2009 годзе зьяўляецца і дасьледчым цэнтрам, і форумам для абмеркаваньня актуальных пытаньняў беларускага жыцьця, галоўным чынам датычна эканомікі ды палітыкі, але не абмежаваных толькі гэтымі пытаннямі. Лібэральны клюб супрацоўнічае з разнастайнымі грамадзкімі аб’яднаньнямі, фондамі, навуковымі і даследчымі цэнтрамі і незалежнымі массмэдыямі. Асновай супрацоўніцтва ёсьць разуменьне і канцэптуалізацыя аптымальных шляхоў грамадзкай палітыкі для Беларусі, якія здольныя значна палепшыць канкурэнтаздольнасьць эканомікі і дабрабыт насельніцтва.

Я меў гонар удзельнічаць у дзейнасці Лібэральнага клюбу ад часу ягонага заснаваньня ў 2009 годзе. Удзел у арганізацыі мерапрыемстваў клюбу і непасрэдна дыскусіях па шырокаму спэктару пытаньняў дапамаглі мне пашырыць сьвета погляд, палепшыць дыскусійную культуру, а таксама набыць шмат аднадумцаў як ў Беларусі, так і за яе межамі. Шматлікія форумы, экспэртныя панэлі, круглыя сталы і найбольш маштабны Першы лібэральны форум моладзі краінаў Усходняга партнэрства, у якіх я браў удзел, закранулі шмат людзей і, упэўнены, паспрыялі разьвіцьцю іхняй грамадзянскай пазыцыі, бо гэта неабходна беларускаму грамадству сёньня.

Як Лібэральны клюб ці НДА падобнага кшталту здольныя дапамагчы ў пераўтварэньні Беларусі ў свабодную і цывілізаваную краіну з разьвітай грамадзянскай супольнасьцю? У бліжэйшай пэрспэктыве, прадстаўнікі ўладаў, якіх запрашаюць на імпрэзы клюбу, могуць пачуць ідэі, што выказваюцца ў дыскусіях, і ўжыць іх на практыцы, нягледзячы на стан падзей у краіне. Не сакрэт, что лукашэнкаўскія чыноўнікі адбіраюцца па крытэрыю лаяльнасьці, а не кампэтэнтнасьці, таму калі добрая ідэя будзе ўжытая нават без узгадваньня сапраўднага аўтарства, усё ж яна паслужыць на карысьць краіны і насельніцтва. Такія прыклады існуюць. Дакладна вядома, что шмат ідэяў ды нават назва праграмы Ярослава Раманчука “Мільён працоўных месцаў”, якую ён прэзэнтаваў на мерапрыемстве Лібэральнага клюбу, была ўжытая ўрадам. Зразумела, аўтара ніхто не ўзгадваў. У доўгатэрміновай пэрспэктыве Лібэральны клюб і падобныя НДА дапамогуць адкрыць новыя імёны незалежна думаючых асобаў, патэнцыйных лідэраў з сапраўднымі ведамі па разнастайных пытаньнях, здольных забясьпечыць правядзеньне рэформаў, якія раней ці пазьней адбудуцца ў Беларусі.

Сёньня шмат маладых адукаваных патрыётаў Беларусі вымушаныя пакінуць Радзіму па палітычных матывах. У ЗША асела даволі значная колькасьць неабыякавых маладых людзей, якія хоць і ня могуць вярнуцца на Радзіму сёньня, жадаюць пераменаў у Беларусі. І яны абавязкова настануць, і Беларусі будзе патрэбная дапамога ў трансфармацыі амаль ва ўсіх сфэрах жыцьця. Прывяду прыклад Польшчы ў яе трансфармацыйныя гады, дзе цяжка пераацаніць удзел дыяспары ды экспатрыянтаў у эканамічнай і палітычнай перабудове ў якасьці экспэртаў, інвэстараў ды ў іншых ралях. Таму я лічу, што стварэньне аналягічнай Лібэральнаму клюбу дыскусійнай пляцоўкі, незалежнай ці на базе існуючых згуртаваньняў беларусаў у ЗША, дапамагло б ім лепш разумець тое, што зараз адбываецца ў Беларусі, палепшыць дыскусійныя здольнасьці ды пабудаваць цесьнейшую супольнасьць, якая з часам зробіць значны ўнёсак у перамены ў Беларусі.

***Д. ШЫЛАЎ***

## Дзень Беларускай Вайсковай Славы

***Заканчэньне з 1-й бачыны***

спрабавалі зганіць слаўную гістарычную дату. Але менавіта 8 верасьня, на дзень перамогі пад Воршай, прынялі прысягу першыя за апошнія сотні год сапраўды беларускія вояры. Менавіта на гэтую дату прыходзяць штогод на Крапівенскае поле моладзь, каб ушанаваць памяць і чын слаўных продкаў, каб адчуць сябе сапраўды беларусамі на сваёй зямлі, дзе ўсё менш чуваць беларускую мову. Дзе за гістарычныя сымболі, пад якімі йшлі на бітву нашыя продкі ў 1514 годзе, можна пакаштаваць амонаўскага гасьцінцу ад нашчадкаў Чаляднiна, нашчадкаў чэлядзі бацькі цара Івана Жахлівага, і трапіць за краты ў нібыта незалежнай, нібыта сваёй, не захопленай маскавітамі краіне.

Так ня будзе вечна і, спадзяюся, так ня будзе доўга. А памяць пра перамогу пад Воршай – яна-ткі вечная. Яна вернецца, яна будзе годна і належна ўшанаваная ў адзначаныя вайсковымі парадамі, маршамі й песьнямі стаўшы афіцыйным штогадовым Дзнём Беларускай Вайсковай Славы.

***Віталь ЗАЙКА***

# Слава Айчыне!
# Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь

З усіх нацыянальных сьвятаў сьвята дзяржаўнай незалежнасьці – найвялікшае. Незалежнасьць – гэта свабода нацыі. Калі свабода страчана, народ пакутуе, бо чыніцца гвалт над ягонай мовай, сумленьнем, культурай і працай. Гонар таму народу і людзям, якія змагаюцца за свабоду і незалежнасьць Айчыны.

Адразу пасьля нашай дзяржаўнай катастрофы ў канцы XVIII стагодзьдзя, калі эўразіяцкія імпэрыі (а дакладней, немцы і расейцы) разарвалі Рэч Паспалітую і Вялікае Княства Літоўскае, адразу нашыя продкі сталі змагацца за вызваленьне і ўзначалілі супольную беларуска-польскую барацьбу. Імёны герояў **Андрэя-Тадэвуша Касьцюшкі, Якуба Ясінскага**, **Кастуся Каліноўскага** шмат гавораць нам аб змаганьні за волю. Сваім прыкладам ды ідэямі яны падрыхтавалі далейшы вызвольны шлях.

25 сакавіка 1918 году была аб'яўлена незалежнасьць **Беларускай Народнай Рэспублікі**. Але тады нашыя продкі не пасьпелі збудаваць моцную беларускую незалежную дзяржаву, бо яна была прадэкляравана пад нямецкай акупацыяй і неўзабаве сталася акупаваная расейскімі бальшавікамі. БНР была зьнішчана расейцамі, але тактычна акупанты вымушаныя былі, у піку БНР, даць дазвол на стварэньне калябаранцкай Беларускай савецкай дзяржавы, якая была аб'яўлена камуністамі ва ўсходняй сталіцы Беларусі – Смаленску. БССР праіснавала як нацыянальна-адміністрацыйная структура СССР да жніўня 1991 года.

25 жніўня 1991 году, дзякуючы гераічным стараньням і барацьбе **Народнага Фронту** і найперш дэпутацкай **Апазыцыі БНФ** у Вярхоўным Савеце, была аб'яўлена незалежнасьць Беларусі шляхам наданьня Дэклярацыі аб Незалежнасьці моцы Канстытуцыйнага закону. Пачалося рэальнае будаўніцтва рэальнай незалежнай Беларускай дзяржавы з усімі атрыбутамі незалежнасьці. Такі быў доўгі шлях змаганьня за незалежную Беларускую дзяржаву і волю, які расьцягнуўся на 200 гадоў гісторыі.

Цяпер, азіраючыся на гэты шлях у час, калі з-за дзяржаўных пераваротаў і ўнутранай акупацыі краіны антыбеларускім рэжымам незалежнасьць знаходзіцца пад пагрозай, мы зь вялікім шанаваньнем павінны памятаць і адзначаць усе падзеі, зьвязаныя са змаганьнем і сцьвярджэньнем нашае дзяржаўнае незалежнасьці. Гэта найперш **25 Сакавіка 1918 году**, сьвята, якое мы адзначаем як Дзень Волі і аб'яўленьне незалежнасьці БНР. Гэта **27 ліпеня 1990 году** – дзень аб'яўленьня Дэклярацыі аб незалежнасьці БССР, якая была прынятая Вярхоўным Саветам у выніку ўдалага выкарыстаньня гарбачоўскай палітыкі і дзякуючы найперш рацыянальнай і ахвярнай барацьбе дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Гэта нарэшце – вянец усіх падзей – дасягненьне рэальнай незалежнасьці Беларусі **25 Жніўня 1991 года**. Ад гэтага часу вось ужо 21 год Беларусь існуе ў сьвеце як раўнапраўная незалежная дзяржава, прызнаная ўсёй міжнароднай супольнасьцю.

Такім чынам, гістарычна адбыліся тры падзеі, тры этапы беларускай незалежнасьці: **25 Сакавіка**, **27 Ліпеня** і **25 Жніўня**. Пры цяперашнім антыбеларускім рэжыме ніводная з гэтых датаў не адзначаецца як афіцыйнае дзяржаўнае сьвята. Больш таго, сьвяткаваньне іх, фактычна, забаронена. А спробы грамадзкасьці адзначыць гэтыя сьвяты выклікаюць супрацьдзеяньне і рэпрэсіі з боку антыбеларускай улады.

У 1990 годзе, пасьля прыняцьця 27 ліпеня Дэклярацыі аб Незалежнасьці, намэнклятура ў Вярхоўным Савеце і камуністычная партыя БССР пагадзіліся аб адзначэньні 27 ліпеня як дзяржаўнага сьвята – Дзень Незалежнасьці, – успрымаючы гэта як выгадную для іх прапагандысцкую фармальнасьць (бо ніякай незалежнасьці рэальна не было, існаваў СССР). Пасьля дасягненьня сапраўднай незалежнасьці краіны ў жніўні 1991 года дзень 27 ліпеня заставаўся дзяржаўным сьвятам яшчэ на працягу пяці гадоў. Потым яно было адменена антыбеларускім рэжымам.

Пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыма (а ён будзе ліквідаваны) даты, зьвязаныя з гэтымі трыма вялікімі падзеямі Незалежнасьці, будуць аб'яўлены (у гэтым я не сумняваюся) дзяржаўнымі сьвятамі Беларусі. Прытым 25-ы Сакавік і 25-ы Жнівень як даты этапныя, паваротныя і гістарычныя будуць адзначаныя (у гэтым я таксама не сумняваюся) чырвоным колерам каляндара як непрацоўныя выходныя сьвяточныя дні.

Цяпер беларусы вымушаныя адзначаць свае нацыянальныя сьвяты і ўздымаць сьвятыя нацыянальныя сымбалі, фактычна, нелегальна, дзейнічаць падпольна. Але цемра ня вечная гэтак жа, як і гэбісцкая імпэрыя на ўсходзе, якой бы дзікай і жорсткай яна ні была, і як бы ні падтрымлівала яна антыбеларускі рэжым. Прыйдзе, настане сьветлы час разумных, культурных, выхаваных, ветлівых людзей, адыйдзе хамства, нянавісьць, дурнота і злосьць. Сьветлыя ўсьмешлівыя беларусы запоўняць нашыя гарады, вуліцы, экран і этэр. Уся краіна будзе сьвяткаваць свой Дзень Волі і Дзень Незалежнасьці. Беларусь вернецца. Беларусь пераменіцца. Беларусь адродзіцца. Памятайма і сьвяткуйма!

Віншую ўсіх беларусаў зь вялікім сьвятам Днём Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь! Слава Айчыне!

*24 жніўня 2012 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
Складкі й ахвяраваньні:

**А. Дубік** ........................50
**Д. Дубоўская** ..................50
**В. Зайка** .......................50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя **Аляксей Бабкоў, Марыя Волкава, Г. Дзімітрава-Скачко, Тацяна Каляда, Андрэй Малчанаў**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"** адбудзецца ў суботу **15 ВЕРАСЬНЯ** на прыродзе ў Цэнтральным парку на Мангэтане.

*Месца, дзе пройдзе сход, знаходзіцца на пагорку пры вялікім возеры (**The Lake with Boating**), дзе лодкі, на поўнач ад **Terrace Drive**, на захад ад **The Mall at Bethesda Fountain**.*

Збор а **10.30** раніцы пры ўваходзе ў Парк на скрыжаваньні **5-й Авэню** і **72-й вуліцы**.

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Т. Бэрд** ........................30
**А. Дубік** .......................30
**Д. Дубоўская** .................30
**В. Зайка** .......................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **"Весткі"** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko***

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў сеціве па адрасу: **www.e-krama.com***